# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№2 (261)
люты 2024

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"


**У НУМАРЫ:**

## У Беластоку беларусы ўшанавалі памяць Ігара Ледніка

Чарговая смерць палітвязня, гэтым разам сацыял-дэмакрата Ігара Ледніка, скалынула беларускую дыяспару Беластока. 20 лютага каля дваццаці чалавек прынялі ўдзел у спантаннай акцыі побач з Генеральным консульствам Беларусі. Удзельнікі прынеслі кветкі і запалілі зні́чы памяці аб палітзняволеных, якія ўжо не выйдуць на волю жывымі.

Старонка 3

## Янушкевіч адкрыў у Варшаве кнігарню

"Памятаеце, як мінская кнігарня "Кнігаўка" пратрымалася менш за суткі? Абяцаем, што варшаўская "Кнігаўка" будзе працаваць мінімум у 365 разоў больш".

Старонка 6

## У Роўна назвалі вуліцу ў гонар Міраслава Лазоўскага

У24 студзеня ў Роўна адбылося пасяджэнне камісіі па пытаннях наймення гарадскіх аб'ектаў тапанімікі, устанаўлення памятных знакаў, мемарыяльных і анатацыйных дошак.

Старонка 8




# "ВЕРШЫ НА АСФАЛЬЦЕ" Ў ВІЛЬНІ

Увечары 16 лютага ў Вільні пачаўся чарговы міжнародны паэтычны фестываль "Вершы на асфальце".

Лаўрэатам прэміі імя Міхася Стральцова стаў паэт Усевалад Сцебурака з кнігай "Беларускія зоркі". Падчас адкрыцця выступілі Андрэй Хадановіч, Тацяна Нядбай, Грэтэ Ротбёль, Яўген Вапа, Алена Стральцова і інш. Прапануем вашай увазе вытрымкі з выступаў першага дня фэсту.

Паэт, перакладчык **Андрэй Хадановіч**: "13 гадоў таму Саюз беларускіх пісьменнікаў быў ля вытокаў фестывалю. (…) Фестываль адбыўся і адбываецца кожны год. Ён – незаменны для розных пакаленняў, розных пляцовак, розных эстэтык. Усё гэта сустракаецца, віруе, а гэта яшчэ госці замежныя, якія далучаюцца да беларускіх паэтаў".

Пісьменніца, старшыня Шведскага саюзу пісьменнікаў **Грэтэ Ротбёль** (Grethe Rottböll): "Дарагія беларусы, сябры, таварышы, калегі. Проста цяпер мы ў Шведскім саюзе пісьменнікаў адчуваем больш агульнага з вамі, чым шмат з кім у нашай уласнай краіне. Бо і ў нас антыдэмакратычныя сілы хочуць кіраваць нашай краінай. Яны хочуць кіраваць мастацтвам, хочуць вызначаць, якія кнігі нам чытаць. Гэтага не мусіць адбыцца, мы не можам адчуваць сябе дома – у такой краіне. Але вы – частка таго, што мы з гонарам можам назваць нашым домам. Дэмакратыя – наш агульны дом. Паэзія – наш агульны дом. Літаратура – наш агульны дом. Абарона нашых розных моў – наш дом. Наш дом тут – у Беларускім доме ў Вільні і ў Пісьменніцкім доме на выспе Готланд. Месцы свабоды – наш дом. Гэта вельмі проста. Мы маем наш дом з сабою, куды б мы ні пайшлі. Мы дома там, дзе мы сустракаемся. Нашыя дзверы заўжды адчыненыя. І мы, шведскія пісьменнікі і перакладчыкі, прыйдзем, калі вы паклічаце".

Працяг на старонцы 2.

навіны

# “ВЕРШЫ НА АСФАЛЬЦЕ” Ў ВІЛЬНІ

Працяг са старонкі 1.

Старшыня Беларускага ПЭН-цэнтру, паэтка і выдавец **Тацццяна Нядбай**: “Для мяне самымі важнымі словамі ў апошнія гады сталі нязломнасць і крохкасць. Яны найбольш, напэўна, адлюстроўваюць нашу сітуацыю і наша жыццё. Я хачу нагадаць, што за папярэдні год у зняволенні памерлі тры дзеячы культуры. Гэта мастак Алесь Пушкін, мастак Руслан Карчаулі, культурны менеджар і блогер Мікалай Клімовіч. Усяго Беларускі ПЭН, які праводзіць маніторынг парушэння правоў чалавека ў сферы культуры, зафіксаваў у мінулым годзе 1499 выпадкаў парушэнняў, 155 дзеячаў культуры, як мінімум 155, знаходзяцца ў зняволенні альбо маюць частковае абмежаванне свабоды. З іх 104 прызнаныя праваабаронцамі палітзняволенымі. (…) Хацелася б нам пажадаць гэту нашу нязломнасць захаваць у сабе, як таксама і захаваць гэту крохкасць і не даць яе зруйнаваць”.

**Яўген Вапа**, рэдактар беластоцкага штотыднёвіка “Ніва” і кіраўнік “Радыё Рацыя”: “І калі ж гаварыць пра тую нашу бязмежную беларускасць і сённяшнюю сітуацыю… (…) Так, вернемся мы з усіх бадзянняў, з усіх вар’ятняў, з усіх рэчаў, якія не спрыяюць. Вернемся, дапаўзем да рэальнай Бацькаўшчыны, да духоўнай Бацькаўшчыны. І яна лунае, прабіваецца праз усе бетоны, асфальты, праз усе зброі, праз усе кардоны. Так што гэтае слова прабівае не толькі асфальты, слова прабівае, ідзе і вядзе нас у добрую беларускую бязмежную вечнасць”.

**Алена Стральцова**, удава Міхася Стральцова і сябра журы фестывалю: “Больш за ўсё я жадаю, каб нашы беларусы, якія не згубілі Радзіму, але вымушаныя былі рассеяцца, каб яны хутчэй, як мага хутчэй вярнуліся ў сваю краіну. Каб мы працягвалі сустракацца ўжо ў Беларусі. Канечне, дзякуй нашым сябрам, якія дазваляюць нам сустракацца ў Вільні і так далей. Але мару, жадаю, каб усё гэта было ў Беларусі. Гэта самая мая вялікая мара. Канечне, я не магу не быць радаснай, што ў трынаццаты раз святкуем фэст, які прысвечаны Міхасю Стральцову. Гэта проста нейкі цуд”.

budzma.org

**Глядзець запіс Стральцоўскага фэсту можна па спасылцы**

# “ПФЛЯЎМБАЎМ” І “ЯНУШКЕВІЧ” НА ЛІТОЎСКІМ КНІЖНЫМ КІРМАШЫ




На фота: галоўная рэдактарка “Пфляўмбаўм” Алена Казлова, Уладзіслаў Гарбацкі, Сяргей Шупа і Андрэй Янушкевіч.

З 22 да 25 лютага ў Вільні працаваў Кніжны кірмаш – самая прэстыжная кніжная імпрэза ў балтыйскіх краінах.

Жаночае выдавецтва “Пфляўмбаўм” арганізавала на ім беларускі стэнд, дзякуючы чаму прадставіць на Кірмашы свае выданні таксама атрымалася і ў іншых беларускіх выдавецтваў.

Выдавецтва “Пфляўмбаўм” параіла наведнікам звярнуць асаблівую ўвагу на дзённік паэткі Марыі Вайцяшонак “На прызбе ў Сілічах”, а таксама на сямейную сагу Марыі Мацёс “Салодкая Даруся” ў перакладзе Алега Віркевіча.

Выдавецтва “Янушкевіч” прадставіла цэлы стос навінак – чацвёртую частку “Ведзьмара” Анджэя Сапкоўскага ў перакладзе Кацярыны Мацієўскай, “Дзівосныя гісторыі на дабранач” Эрвіна Мозэра і “Кот Шпрот і зніклы мышамабіль” Ганны Янкуты.

Самай жа прадаванай кнігай на стэндзе “Пфляўмбаўм” быў пераклад Сяргея Шупы літоўскага рамана “Туўла” Юргіса Кунчынаса ад выдавецтва “Вясна”.

“Безліч кніг і выдавецтваў, на адкрыцці выставы прамаўляе прэзідэнт дзяржавы. Лагістыка і сэрвіс ідэальныя. Уваход на выставу платны, але кошт чыста сімвалічны”, – падзяліўся Андрэй Янушкевіч уражаннямі ад адкрыцця выставы.

Паводле facebook.com

# У БЕРЛІНЕ ВЫЙШЛА НОВАЯ КНІГА ВЕРШАЎ СЯРГЕЯ ПРЫЛУЦКАГА

У берлінскім выдавецтве hochroth Minsk выйшла кніга паэзіі “Нічога нястрашна” беларускага паэта Сяргея Прылуцкага, які жыве ва ўкраінскай Бучы. Пра выхад кнігі паведаміў аўтар на сваёй старонцы ў фэйсбуку.

“У Берліне ў выдавецтве hochroth Minsk выйшла кніжка маіх апошніх вершаў. Акрамя трох тэкстаў усе яны напісаныя пасля 24.02.24, але і гэтыя тры таксама пра вайну і яе прадчуванне…” – напісаў Сяргей Прылуцкі.

Прэзентацыя кнігі вершаў “Нічога нястрашна” адбудзецца ў Вільні 18 лютага падчас фестывалю “Вершы на асфальце”.

У новую кнігу Сяргея Прылуцкага ўвайшлі сярод іншага паэтычныя лісты сыну паэта Адаму. “Першы з лістоў Адаму быў напісаны ў сакавіку 2021 году, другі – у студзені 2022-га. РПЦ – у ліпені 2019-га. І яны цалкам апісваюць тое, што адбываецца зараз, – расказвае паэт у фэйсбуку і дадае падзякі. – Дзякуй дарагім Дзмітрыю Строцаву за выданне, Кацярыне Пікірэні за малюнак і Наталлі Русецкай за рэдактуру. І, галоўнае, украінскаму войску, што яшчэ жывы і маю магчымасць пісаць гэты пост”, – адзначыў паэт.

budzma.org



навіны

# ВЕЧАР ШАГАЛА З КВІЗАМ І ПРЫЗАМ

Незвычайная вечарына, прысвечаная жыццю і творчасці Марка Шагала, прайшла ў Брукліне.




Вечарына адбылася 10 лютага ў беларускім цэнтры пры саборы Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. На яе сабраліся людзі, якія ўжо былі знаёмыя ў музеях Нью-Ёрка з творчасцю мастака, але не толькі.

Вядома, што габрэй з Беларусі любіў месца, дзе ён нарадзіўся і пачаў першыя спробы малявання. Шмат у творчасці мастака звязана з віцебскімі матывамі. Аднак бацькі Шагала марылі, каб сын быў бухгалтарам ці аканомам. Аднак ён стаў мастаком з сусветным імем, калі яму не было і 30 гадоў. Марка Шагала лічаць сваім не толькі ў Беларусі, але і ў Францыі, ЗША, Ізраілі – ва ўсіх краінах, дзе ён жыў і працаваў.

Праграма вечарыны пачалася незвычайна – адразу з квізу, дзе прысутным у інтэрактыўным фармаце трэба было адказваць на пытанні вядоўцы Насты Харкевіч. Пераможцу чакала кніга пра Марка Шагала. Адказы на 23 пытанні гучалі адразу ж пасля націскання на іх. Пры гэтым яны суправаджаліся тлумачэннямі вядоўцы.

– На пачатку я думала зрабіць лекцыю, але потым вырашыла, што вы ўсё будзеце ведаць і вам будзе нецікава адказваць на пытанні квізу. Таму правільныя адказы і каментары пра жыццё, творчасць і дзейнасць Шагала будуць па ходу, – сказала на пачатку сустрэчы Наста.

Больш за ўсё правільных адказаў дала Юлія Букштановіч. Пры гэтым дзяўчына растлумачыла, што рыхтавалася перад імпрэзай.

– Я чытала пра творчасць Шагала, але былі пытанні, якія прыводзілі мяне ў ступар. Але я вельмі радая, што здабыла перамогу. З радасцю прачытаю кнігу і падзялюся з усімі ахвотнымі, – расказала Юлія.

Акрамя Шагала і ягонай творчасці прысутныя даведаліся пра іншых мастакоў і людзей, з якімі яго звязвала жыццё. Напрыклад, шмат хто адчыніў для сябе тое, што Шагал быў вучнем жывапісу вядомага майстра Льва Бакста, альбо, што ў яго былі напружаныя адносіны з Пабла Пікаса.

Таксама падчас вечарыны быў арганізаваны прагляд відэаспектакля пра Марка Шагала. Імпрэза прайшла ў цёплай сяброўскай атмасферы. Прысутныя яшчэ доўга размаўлялі пасля за гарбатай і печывам.

Сустрэча была арганізавана пры падтрымцы Нью-Ёркскага аддзела БАЗА.

**Алесь Пазняк, bielarus.info**

# У БЕЛАСТОКУ БЕЛАРУСЫ ЎШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ ІГАРА ЛЕДНІКА

Чарговая смерць палітвязня ў лукашэнкаўскіх засценках, гэтым разам сацыял-дэмакрата Ігара Ледніка, скалынула беларускую дыяспару Беластока. 20 лютага каля дваццаці чалавек прынялі ўдзел у спантаннай акцыі побач з Генеральным консульствам Беларусі. Удзельнікі прынеслі кветкі і запалілі зніччы памяці аб палітзняволеных, якія ўжо не выйдуць на волю жывымі.




Літаральна напярэдадні беларусы Беластока збіраліся перад Ваяводскай управай і перадавалі просьбу да польскіх улад, каб тыя выставілі ўльтыматум Аляксандру Лукашэнку з патрабаваннем вызвалення ўсіх беларускіх палітвязняў і прыгразілі спыненнем руху грузавога чыгуначнага транспарту. І вось сёння тэма палітзняволеных зноў гучала ў Беластоку. Гэтым разам каля Генеральнага консульства, дзе раней быў створаны своеасаблівы мемарыял забітых лукашэнкаўскім рэжымам. Цяпер да гэтых партрэтаў дадаўся партрэт Ігара Ледніка, які на 64 годзе жыцця памёр ад хваробы сэрца, адбываючы пакаранне ў бабруйскай калоніі, за нібыта паклёп на Лукашэнку.

Акцыя цягнулася каля паўгадзіны.

**radiounet.fm**

навіны

# У ВІЛЬНІ ЗАПРАЦАВАЛА БЕЛАРУСКАЯ БІБЛІЯТЭКА

Бібліятэка размясцілася ў цэнтры гораду. Чытачы знойдуць тут і класіку, і сучасныя творы, асобная ўвага – на дзіцячую літаратуру.



Менеджарка "Чытальні" Таццяна Ігнацьева

У Цэнтры беларускай супольнасці і культуры, што знаходзіцца на вуліцы Віленскай, на грошы, сабраныя беларускай дыяспарай, адкрылася “Чытальня”. Менеджарка ўстановы Таццяна Ігнацьева, як фармаваўся кніжны фонд, на які час хопіць сабраных сродкаў і як бібліятэка паспрабуе аб’яднаць беларусаў, якія апынуліся ў Літве.

**– Спадарыня Таццяна, раскажыце, калі ласка, як з’явілася ідэя зрабіць беларускую бібліятэку і як збіралі грошы на праект?**

– У 2023 годзе на платформе “Новая Беларусь” быў абвешчаны праект па самакіраванні. Беларусам, якія жывуць у Літве і Польшчы і плацяць там падаткі, прапанавалі частку ўнёскаў пералічыць на беларускія праекты, што дазволена мясцовым заканадаўствам. І вось дзякуючы гэтым падаткам і асобным данатам беларусы ў Літве сабралі 13 тысяч еўра. А арганізатары праекту абвесцілі конкурс ідэй, на што варта скіраваць сродкі.

У Літве перамагла ідэя Ірыны Мышкавец, якая прапанавала стварыць беларускую бібліятэку ў Вільні. Гэтая ідэя ў выніку рэалізавалася ў абнаўленні і пашырэнні дзейнасці бібліятэкі ў Цэнтры беларускай супольнасці і культуры. Такім чынам, першыя паўгода 2024-га фінансава закрытыя. Грошы пойдуць на функцыянаванне бібліятэкі – напрыклад, на часовы заробак бібліятэкара, закупку новых кніг. Мы разумеем, што бібліятэка мусіць працаваць і далей, таму будзем рады, калі беларусы ў межах “Новай Беларусі” падтрымаюць развіццё бібліятэкі, але думаем і над іншымі варыянтамі.

**– Як будзе працаваць бібліятэка?**

– З канца 2023-га бібліятэка запрацавала ў двух фарматах. Першы – класічны, і ў гэтым фармаце бібліятэка, якая базавалася ў Цэнтры беларускай супольнасці і культуры, працавала ўжо два гады. Карысталіся ёй збольшага беларусы, што наведвалі ў Цэнтры імпрэзы ці гурткі, а таксама беларускую школку.

З пачатку 2024 года адбылося абнаўленне бібліятэкі, цяпер яна працуе і анлайн. Чытач можа паглядзець каталог на сайце cytalnia.com і забраніраваць патрэбныя кнігі да вечара наступнага дня. Бібліятэка працуе з серады па нядзелю. Апроч абанемента, у нас ёсць чытальная зала, дзе можна папрацаваць з сапраўды рэдкімі і каштоўнымі выданнямі. Ёсць у фондзе і кнігі з гісторыяй – аўтографамі ці дароўнымі запісамі.

**– Як фармаваўся кніжны фонд бібліятэкі?**

– У бібліятэцы ўжо існаваў кнігазбор, які складаўся з блізу 1500 зарэгістраваных у каталогу кніг. Выданні збіраліся ў асноўным з прыватных калекцый беларускіх пісьменнікаў і дзеячаў культуры – напрыклад, Сяргея Дубаўца, сям’і Вітушак, Алега Мінкіна, Таццяны Поклад. Яшчэ каля 1500 кніг знаходзіцца ў скрынях, іх трэба перапісаць і таксама занесці ў базу сайта, і мы працуем над гэтым. Апроч таго, кнігі ў бібліятэку прыносяць і простыя чытачы. Спадзяемся, гэта традыцыя працягнецца. Да прыкладу, напрыканцы студзеня прадстаўніца Аб’яднанага Пераходнага Кабінета Аліна Коўшык, што была з візітам у Вільні, перадала ў падарунак бібліятэцы некалькі беларускіх кніг, выдадзеных у Польшчы.

Мы працуем у бібліятэцы менавіта беларускай кнігі, таму наш фонд на 99% складаецца з выданняў па-беларуску. У нас ёсць кнігі па-польску, палітоўску, па-руску, але гэта або пераклады нашых беларускіх пісьменнікаў, або кнігі пра Беларусь і беларусаў. Чытачы знойдуць у бібліятэцы класіку, сучасныя, дзіцячыя творы беларускай літаратуры, кнігі па гісторыі і беларусазнаўстве, фальклору і этнаграфіі, энцыклапедыі, слоўнікі і дапаможнікі, мемуары і біяграфіі. Таксама адзначу, што набыццё новых кніг – адна з асноўных мэтаў праекту па самакіраванні. Зараз праз сацсеткі мы збіраем запыты ад нашых чытачоў, якія выданні яны хацелі б знайсці на паліцах нашай “Чытальні”. Прыярытэтам лічым дзіцячую і сучасную мастацкую літаратуру.

**– Ці плануеце вы мерапрыемствы для чытачоў?**

– Мы бы хацелі, каб бібліятэка аб’ядноўвала беларусаў у Літве, таму ладзім чытацкі клуб. Раз на месяц мы абіраем адну ці дзве кнігі, прапануем нашым чытачам з імі пазнаёміцца, а пасля абмеркаваць за гарбаткай ва ўтульнай сяброўскай атмасферы. На такія імпрэзы для чытачоў мы запрашаем аўтараў кніг ці экспертаў, якія маюць дачыненне да выдання кніг ці тэмы, што ў ёй закранаецца. Акурат у лютым чакаем у Вільні нашу першую госцю – паэтку Насту Кудасаву.

**– Як вы лічыце, ці дапаможа бібліятэка аб’яднацца беларусам, якіх цяпер у Літве не меней за 60 тысяч?**

– Я думаю, на сёння гэта адна з найбольш камфортных формаў узаемадзеяння для беларусаў, бо заснаваная на цікавасці да кніг і сваёй культуры агулам. Для бацькоў, якія хочуць выхоўваць дзяцей па-беларуску, гэта выдатная магчымасць быць унутры беларускамоўнага асяроддзя. Таму мы шмат увагі надзяляем менавіта дзіцячай літаратуры.

Многія з’язджалі з Беларусі вельмі хутка і не змаглі ўзяць з сабой сваю хатнюю бібліятэку, мае кнігі таксама засталіся на радзіме. А ў эміграцыі, калі ты здымаеш жытло, не заўсёды ёсць магчымасць збіраць кнігі дома. Таму выдатна, што цяпер ёсць магчымасць узяць кнігу з бібліятэкі дадому ці пачытаць яе ў залі самой бібліятэкі, у якой лунае беларушчына. Важны таксама псіхалагічны складнік: у такой прасторы беларусы заўсёды знойдуць падтрымку, адчуванне сваіх людзей побач.

Дар’я Бернштэйн, dw.com



мастацтва

# РОСПІСЫ АЎТАРСТВА БЕЛАРУСКАЙ МАСТАЧКІ ЗОІ ЛІТВІНАВАЙ УПРЫГОЖЫЛІ СЦЕНЫ КАПЛІЦЫ Ў АЎСТРЫІ

Вядомая беларуская мастачка Зоя Літвінава зрабіла роспіс капліцы Божай Маці ў камуне Хопфгартэн у Аўстрыі. У жывапіснай тэхніцы энкаўстыка, дзе галоўным рэчывам з'яўляецца воск, аўтарка стварыла яскравыя выявы Божай Маці, анёлаў і трох каралёў на сценах каменнай капліцы.

Мастачку звязваюцца з камунай Хопфгартэн (федэральная зямля Ціль) даўнішнія культурніцкія сувязі. Ужо больш за дзесяць гадоў яна сябруе з мясцовым галерыстам Петэрам Айнбергам і пастарам Нікаласам Эрберам. Разам са скульптаркай Галінай Гаравой яны працавалі над аздабленнем капліцы Божай Маці ў мястэчку і над праектам скульптурнай кампазіцыі на могілках парафіі. У 2008 годзе з вялікім поспехам прайшла выстава мастачак у тутэйшай галерэі KUNSTRAUM. Роспіс капліцы – працяг творчага супрацоўніцтва беларускай жывапісца і камуны.

**reform.by**

# У РЫЖСКАЙ РАТУШЫ НА ПРАЦЯГУ ЛЮТАГА ПРАХОДЗІЛА ВЫСТАВА ВОЛЬГІ ЯКУБОЎСКАЙ

1 лютага ў будынку Рыжскай ратушы (Ratslaukums 1) адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы беларускай мастачкі Вольгі Якубоўскай з сімвалічнай назвай "25 крокаў да Свабоды". На выставе экспануюцца 25 карцін, прысвечаных 25 момантам беларускага супраціву. Арганізатарам выставы выступіла аб'яднанне беларусаў "Суполка" пры падтрымцы Рыжскай думы і Дацкага інстытута культуры ў Эстоніі, Латвіі і Літве.



Першая персанальная выстава спадарыні Вольгі ў Рызе была арганізаваная нашым таварыствам летась у сімвалічны для ўсіх беларусаў дзень – 25 сакавіка. З таго часу карціны мастачкі з серыі "Коцікі Свабоды" выстаўляліся на персанальных выставах ў Польшчы, Бельгіі, Італіі, Манака ды іншых краінах. Вольга Якубоўская з'яўляецца сябрам Аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю Гонар". На адкрыццё чарговай выставы ў фае Рыжскай думы сабралася вельмі шмат гасцей: прадстаўнікоў Сейма, Рыжскай думы і іншых дзяржаўных інстытуцый Латвіі, сяброў, латвійскіх мастакоў і мастацтвазнаўцаў розных нацыянальнасцяў, прадстаўнікоў беларускай дыяспары і іншых меншасцяў.

Павіншаваць сп. Вольгу прыйшлі віцэ-мэр Рыгі Лінда Азола, дырэктарка Дацкага інстытута культуры ў Эстоніі, Латвіі і Літве Лізавета Дубінка-Гушча, намесніца дырэктара Рыжскай Беларускай асноўнай школы Ганна Іванэ.

Гасцямі на адкрыцці выставы былі таксама Надзвычайны і паўнамоцны Пасол Латвіі ў Беларусі Эйнарс Сэманіс, прадстаўніца па нацыянальным адраджэнні Аб'яднанага пераходнага кабінета Беларусі Аліна Коўшык, шматгадовы старшыня Аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю Гонар" Вячка Целеш і іншыя вядомыя асобы.

Музычны падарунак у выглядзе беларускіх і ўкраінскіх песень на адкрыцці выставы падрыхтаваў украінскі гурт "Дівчата".

**svitanak.eu**

навіны

# АНДРЭЙ ЯНУШКЕВІЧ АДКРЫЎ У ВАРШАВЕ БЕЛАРУСКУЮ КНІГАРНЮ

Самы вядомы беларускі выдавец Андрэй Янушкевіч адкрыў у Варшаве сваю кнігарню, і гэта – галоўная кніжная навіна апошніх тыдняў. Сімвалічная і надзвычай чаканая беларускімі чытачамі падзея супала з дзесяцігоддзем выдавецтва. Перад варшаўскім адкрыццём там жартавалі: "Памятаеце, як мінская кнігарня "Кнігаўка" пратрымалася менш за суткі? Абяцаем, што варшаўская "Кнігаўка" будзе працаваць мінімум у 365 разоў больш".



– Ідэя, мара, план рэалізаваўся. Мы пераcталі быць качэўнікамі ў інтэрнэце і аселі на зямлі, – па-гаспадарску сустракае нас выдавец Андрэй Янушкевіч у сваім невялікім, але ўтульным і вельмі светлым павільёне. Спачатку тут працавалі ў фармаце пункту самавывазу, але цяпер гэта ўжо сапраўдная кнігарня, якая чакае сваіх першых гасцей.

**"Зробім месца прыцягнення ўсіх аматараў беларускай кнігі і культуры"**

Беларуская "Кнігаўка" месціцца на вуліцы Kłopotowskiego, 4 на Старой Празе ў Варшаве. Лакацыя – выдатная. Неўзабаве праз Віслу адкрыецца пешаходны мост, па якім да Янушкевіча можна будзе дайсці з цэнтру за хвілін 10-15. А літаральна за некалькі крокаў ад кнігарні хутка запрацуе кавярня Inclusive barista Аляксандра Аўдзевіча (выдатны беларускі анклаўчык вымалёўваецца!). Зрэшты, частаваць гарбатай-кавай плануюць і ў "Кнігаўцы".

– Мы хочам, каб гэта было месца сустрэч аднадумцаў, – натхнёна распавядае Андрэй Янушкевіч. – Зробім месца прыцягнення ўсіх аматараў беларускай кнігі і культуры. Каб нашыя людзі ведалі, што ў Варшаве ёсць месца, дзе заўсёды можна прыйсці, даведацца, што адбываецца ў нашай літаратуры – што выходзіць, што плануецца, якія праблемы, якія радасці, з чым мы сутыкаемся.

Абжываецца ў кнігарні будуць паркрысе, кажа выдавец. Хутка тут з'явіцца яшчэ адна кніжная шафа, паставяць столікі, а вялікія вокны ўпрыгожыць неонавая шыльда.

– Мы не хочам дапусціць той памылкі, якую зрабілі ў Мінску. Зрэшты, тут яна і немагчымая, – смяецца Андрэй Янушкевіч. – Тады мы паўтара месяца рыхтаваліся да адкрыцця, трымалі ўсё ў таямніцы, замовілі спецыяльную мэблю ў адпаведных колерах, размалявалі сцены, купілі абсталяванне.

**– А пасля да вас прыйшлі няпрошаныя госці…**

– І ўсе нашыя капіталаўкладанні пайшлі насмарку. Таму зараз мы вырашылі, што будзем працаваць паступова. Неўзабаве зробім тут усё ўтульненька, прыгожанька, каб не хацелася выходзіць. Мы вельмі хацелі адкрыцца пад свой юбілей, і ў нас гэта атрымалася. Так што няхай людзі прыходзяць, бо галоўнае, чым мы можам парадаваць – гэта кнігі. Яны ў нас ёсць. Можна прыйсці, пагартаць, пагладзець, пачытаць і зрабіць свой выбар.

Аб'ядное Янушкевіч вакол сябе і калег па цэху. Ужо цяпер на яго паліцах стаяць кнігі розных беларускіх выдавецтваў.

– Мы адыдзем ад фармату выдавецкай кнігарні, – дзеліцца планамі Андрэй Янушкевіч. – Мы ўжо цесна супрацоўнічаем са сваімі блізкімі партнёрамі – выдавецтвамі "Пфляўмбаўм" і "Вясна". Мы хочам, каб у нашай кнігарні была прадстаўлена ўся якасная новая беларуская літаратура.

**"У нас вельмі вялікі слой чытачоў, якія патрабуюць сур'ёзнай інтэлектуальнай літаратуры"**

На сёння "Кнігаўка" можа парадаваць асартыментам, які ёсць у яе інтэрнэт-крамах, а гэта – больш за 60 пазіцый. Традыцыйна адны з самых папулярных у беларускага чытача – творы Альгерда Бахарэвіча. У "Кнігаўцы" прадаецца цяпер 5 яго кніг. Надрукуе Янушкевіч і новы раман беларускага пісьменніка. Калі ўсё будзе добра, то навінку пагартаем ужо праз некалькі месяцаў. Стаіць на паліцах і хіт гэтай зімы – пераклад першай часткі легендарнай сагі Джона Толкіна.

– Калі з'явіўся "Валадар пярсцёнкаў", то ён перабіў усе іншыя кнігі. Быў вельмі актыўны папярэдні заказ, кніжку вельмі інтэнсіўна замаўлялі перад новым годам, а студзень паказаў, што яна знаходзіцца на першым месцы па продажы. Стабільна карыстаюцца попытам кнігі Альгерда Бахарэвіча. Карыстаецца папулярнасцю сусветная класіка – гэта і Джордж Оруэл, і Эрых Марыя Рэмарк, і Габрыэль Гарсія Маркес. Безумоўна, робім стаўку на нашыя навінкі. Я цудоўна разумею, што калі выдавецтва хоча жыць і інтэнсіўна развівацца, нельга спыняцца. Трэба пастаянна рабіць новыя кнігі, радаваць імі чытача. Прынамсі, у нашым выпадку гэта і ёсць рэцэпт поспеху. Мы ўсцешаныя, што навінкі, якія мы выпускаем, заўсёды карыстаюцца попытам. Часта чытач ідзе менавіта па іх.

**– А потым вяртаецца па іншую кнігу?**

– Плюс у кнігах, якія ўсе ведаюць – дзякуючы ім да цябе ідуць новыя людзі. Тыя, якія абыякавыя да беларускай літаратуры ўвогуле, але даведаўшыся, што выходзіць "Гары Потэр" ці "Вядзьмар", яны ідуць чыста з цікаўнасці, купляюць адну кніжку, а потым прыходзяць ізноў. Праз месяц, праз два, але прыходзяць. Так адбываецца ў 9 з 10 выпадкаў.

Увогуле ж, аўдыторыя беларускіх кніг даволі шырокая. Вельмі вялікі слой чытачоў, якія патрабуюць сур'ёзнай інтэлектуальнай літаратуры. Мы выдалі "Ненасытнасць" польскага пісьменніка Віткевіча. Ён вельмі няпроста чытаецца, складаны для зразумення. Я думаў – ну, пару дзясяткаў кніжак разыдзецца, і дзякуй Богу. А ён купляецца і карыстаецца папулярнасцю! Вялікі пласт чытачоў патрабуе масавай літаратуры, якая дазваляе адасобіцца ад будзённай рэальнасці і расслабіцца. Наша задача як выдавецтва – каб гэты адпачынак быў з кніжкай, а не з гульнёй ці з тэлевізарам.

**"Трэба падымаць прэстыж працы карэктара, рэдактара, перакладчыка. І добра было б, каб «власть придержащие» задумаліся аб гэтым"**

– Зараз вельмі важна, каб залаты фонд сусветнай класічнай літаратуры быў выдадзены па-беларуску, – разважае над няпростымі пытаннямі Андрэй Янушкевіч. – А ў нас вялікія прагалы! У нас не выдадзеныя тыя раманы, якія заўсёды чытаюцца ў падлеткавым узросце – "Тры мушкецёры", "Падарожжы Гулівера". У нас да гэтай пары не выдадзены самы вялікі раман за ўсю гісторыю сусветнай літаратуры – "Дон Кіхот" Сервантэса. Усе гэтыя лакуны трэба закрываць. Па гэтыя кнігі чытач будзе ісці. Але мы ўсё адразу на сваіх рэсурсах зрабіць не можам. Так што неўзаранага поля вельмі шмат.

**– І вы на гэтым полі шчыруеце ўжо 10 гадоў!**

– Я прызнаюся, што мне было даволі лёгка, таму што на беларускім кніжным рынку даволі слабая канкурэнцыя. Калі зараз з'явіцца яшчэ 10 беларускіх выдавецтваў кшталту нашага – добра, калі мы закрыем працэнтаў 10 запатрабаванняў патэнцыйнай аўдыторыі. Так не павінна быць, але ўсё ўпіраецца ў рэсурсы. Пры тым не толькі ў матэрыяльна-фінансавыя, а і ў кадрава-чалавечыя.

Нам трэба падымаць прэстыж працы карэктара, рэдактара, перакладчыка, і добра было б, каб "власть придержащие" задумаліся аб гэтым. Гэта была б практычная канкрэтная дапамога, а не пафас, які ліецца са старонак СМІ пра тое, як усе падтрымліваюць беларускую культуру. Толькі справа засведчыць чыюсьці рацыю.

**– Што вам дапамагала ўвесь гэты час быць у авангардзе працэсу? Што патрэбна, каб заставацца адным з самых паспяховых гульцоў на кніжным рынку – хватка, апантанасць? А можа, інтуіцыя?**

– Я ўключаў бізнес-мысленне: якая кніга пойдзе ў чытача, на якой кнізе я магу добра зарабіць, каб потым далей развівацца? Мы прыйшлі на рынак і праз 5 гадоў ужо выдалі першага "Гары Потэра". І калі я задаваў сабе рытарычнае пытанне, а чаму кнігу, якая грымела ў любых грамадствах апошнія 20 гадоў ніхто не выдаў да гэтай пары, – то аказваецца, што ніхто і не браўся. Так што прыйшоў, убачыў, перамог (смяецца).

radiounet.fm

навіны

# ГАДАВЫ СХОД НЬЮ-ЁРКСКАГА АДДЗЕЛА БАЗА

Чацвёртага лютага 2024 года, у нядзелю, прайшоў гадавы справаздачна-выбарчы сход Нью-Ёркскага аддзела Беларуска-Амерыканскага Задзіночання (БАЗА). Падзея адбылася ў грамадскай зале Сабора Св. Кірылы Тураўскага на Атлантык Авэню, 401 у Брукліне.



Сваю чарговую справаздачу на пасадзе старшыні Аддзелу зрабіла сп. Аксана Пятрашка. Яна стала кіраўнічкаю Аддзелу пасля пераабрання на лістападаўскім сходзе 2022 года. З выступу старшыні было выразна бачна, што яна сама і ўвесь склад Управы працавалі даволі плённа, было зроблена шмат чаго карыснага і цікавага.

Скарбнік Аддзелу сп. Сяргей Кудзеліч у сваёй кароткай справаздачы распавёў пра фінансавы стан Аддзела, які выглядае даволі прыстойна. Але некаторыя моманты мусяць быць выпраўленыя.

Сябра Управы Аддзела і рэдактар газеты "Беларус" сп. Ганна Сурмач давяла да ведама прысутных інфармацыю пра дзейнасць рэдакцыі газеты "Беларус", у складзе якой бяруць удзел сябры Нью-Ёркскага Аддзела. Газета цяпер мае свой сайт у інтэрнэце – Bielarus.info і выходзіць у электронным варыянце. Рэдакцыяй таксама выдадзены гадавы нумар газеты з найбольш значнымі публікацыямі ў папяровым варыянце. Сп. Сурмач выказала асаблівую падзяку за працу ў Рэдакцыі сябру Аддзелу сп. Міхалу Чаропку, які вядзе сайт газеты. Таксама падзякавала журналісту Алесю Пазняку, які аператыўна падае інфармацыю ў газету пра ўсе падзеі беларускага жыцця ў Амерыцы. Рэдактарка заклікала прысутных браць больш актыўны ўдзел у інфармацыйным забеспячэнні дзейнасці беларусаў у Нью-Ёрку, дасылаць у газету сваю інфармацыі, артыкулы, паведамленні.

Удзельнікі сходу прынялі да ведама справаздачы і падтрымалі станоўчую ацэнку дзейнасці Управы Аддзела за мінулы справаздачны год.

Далей адбыліся выбары складу Управы Аддзела на наступны год. У першую чаргу трэба было абраць старшыню Управы. Сп. Аксана Пятрашка па асабістых абставінах, звязаных з вучобаю, больш не зможа ў поўнай меры прысвячаць сябе працы на пасадзе старшыні Аддзела. Яна прапанавала абраць старшынём вельмі актыўнага сябра Аддзела сп. Міхала Чаропку. Ён пагадзіўся. У выніку патаемнага галасавання сп. Міхал Чаропка быў абрана старшынёю Нью-Ёркскага аддзела БАЗА.

Прысутныя да сходзе падтрымалі прапанаваны новаабраным старшынёй спіс сяброў у новы склад Управы аддзелу, які ў выніку галасавання быў зацверджаны.

У склад Управы аддзела ўвайшлі: Аксана Пятрашка, Надзея Шыкаловіч, Сяргей Кудзеліч, Тацяна Красоўская, Андрусь Дундукоў, Ганна Сурмач, Наста Харкевіч.

Таксама быў абраны новы склад Рэвізійнай камісіі: Дар'я Фомчанка – старшыня, Юрый Козінцаў – сябра, Андрэй Малецкі – сябра.

На завяршэнне сходу слова ўзяў сп. Міхась Чаропка. Ён падзякаваў усім, прывітаў новых сяброў Управы і запрасіў іх да актыўнай працы.

**baza.nyc**

# "ПАЭЗІІ ХВАЛЮЮЧЫЯ ГУКІ"

27 студзеня ў літаратурнай гасцёўні таварыства "Уздым" працягнулася сустрэча з таленавітымі людзьмі з цыклу "На лукавіне Даўгавы". Гэтым разам сустрэча адбылася з паэткай, сябрам таварыства "Уздым" Таццянай Аляксеевай. Адкрыла сустрэчу член праўлення таварыства Валянціна Ліпінская, якая прадставіла паэтку прысутным гасцям.

Пачаўся літаратурны вечар Тацціяны Аляксеевай прадстаўленнем вершаў уласнага сачынення на хвалюючыя яе тэмы. Тацціяна была максімальна адчынена для сваіх гасцей: грунтоўна і ахвотна дэкламавала ва ўласцівай толькі ёй манеры свае вершы, адказвала на пытанні прысутных аматараў паэзіі, прыхільнікаў яе таленту. Яна чытала вершы розных гадоў, успамінаючы эпізоды літаратурнай біяграфіі, расказвала пра свой творчы шлях і ролю паэзіі ў яе жыцці.

"Змест маіх вершаў звязаны са светапоглядам, светаадчуваннем, светаўспрыманнем і маімі перакананнямі", – падзялілася паэтка. Чытаючы вершы, яна ўспамінала і расказвала пра некаторыя падзеі са сваёй біяграфіі. У гасцёўні таварыства склалася амаль сямейная абстаноўка, дзе многія адно з адным добра знаёмыя, гучалі выдатныя вершы і разважанні над важнымі пытаннямі, якія хвалююць паэтку. Свой выступ Тацціяна Аляксеева ілюстравала яркімі, нагляднымі экскурсамі ў незваротнае мінулае, так мілае яе душы. Разам з тонкай лірыкай вялікае месца ў творчасці паэткі займаюць гумарыстычныя вершы. Госці пазнаёміліся з тэкстамі, якія нідзе не выдаваліся, хаця Тацціяна піша вершы з дзяцінства. Адным з апошніх Тацціяна прачытала верш, прысвечаны 30-годдзю таварыству "Уздым", якое адзначыла свой юбілей у ліпені мінулага года.

Некалькі гадоў Тацціяна Аляксеева спявала ў харавой капэле "Спадчына" пры Цэнтры беларускай культуры. І гэтым разам павіншаваць Тацціяну сваімі песнямі прыйшоў гурт "Натхненне" таварыства "Уздым". Абстаноўка была настолькі сардэчнай, цёплай і даверлівай, што ўсе прысутныя падпявалі . На сустрэчу павіншаваць паэтку прыйшлі сябры, члены таварыства "Уздым", а таксама калегі з рускай пісьменніцкай арганізацыі Даўгаўпілса.

Пажаданняў было вельмі шмат, але галоўным было, каб у Тацціяны выйшла ўласная кніга, каб дар, якім надзяліла яе прырода, прыносіў і ёй, і навакольным усё больш новых выдатных вершаў!

Час праляцеў вельмі хутка, усе змаглі паразмаўляць і павіншаваць паэтку з такой выдатнай творчай сустрэчай. У завяршэнне вечара Тацціяна Аляксеева падзякавала ўсім прысутным гасцям за такі цёплы і сардэчны прыём.

**Падрыхтавала Лілія Воранава, старшыня праўлення таварыства "Уздым"**



**in memoriam**

# АДЫШОЎ У ЛЕПШЫ СВЕТ МІКОЛА ЯРЧАК

26 студзеня 2024 года пасля цяжкай хваробы адышоў ад нас у лепшы свет шчыры беларус, адзін з старэйшых сяброў і заснавальнікаў ЛТБК "Сьвітанак", беларускі вучоны-хімік, доктар хімічных навук (1991), прафесар (1998) Мікола Ярчак. Сябры Латвійскага таварыства беларускай культуры "Сьвітанак" з вялікім смуткам выказваюць свае глыбокія спачуванні сям'і нябожчыка.

Мікалай Пятровіч Ярчак нарадзіўся 25 мая 1950 года ў сям'і настаўніка ў вёсцы Гошчава Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці.

У 1966 годзе са срэбным медалём скончыў Гошчаўскую сярэднюю школу, а ў 1971 годзе – Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт.

По размеркаванні разам з жонкай Ліліяй прыехаў у Рыгу і з 1971 года працаваў у Інстытуце арганічнага сінтэзу Акадэміі навук Латвіі. Абараніў спачатку кандыдацкую, а потым доктарскую дысертацыі. З моманту заснавання ў 1988 годзе і да ад'езду ў Беларусь актыўна ўдзельнічаў у дзейнасці Латвійскага таварыства беларускай культуры "Сьвітанак". На працягу пяці гадоў узначальваў таварыства і быў адным з ініцыятараў заснавання Рыжскай беларускай школы (1994) і Латвійскага Фонду беларускай культуры (1996).



У 1996 годзе Мікола Ярчак вярнуўся на радзіму і ўзначаліў кафедру хіміі ў Брэсцкім універсітэце. Выкладаў сваім студэнтам прадметы выключна па-беларуску. З 2000 года арганізаваў і быў першым дырэктарам Аддзела праблем Палесся Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. З 2004 года і да выхаду на пенсію адначасова выкладаў ва ўніверсітэце горада Седльцэ (Польшча). Ніколі не прыпыняў сваёй навуковай дзейнасці.

Мікола Ярчак пакінуў пасля сябе шматлікія навуковыя працы па тэарэтычнай, арганічнай і медыцынскай хіміі, аграхіміі, экалогіі і воднай гаспадарцы, тэорыі кампенсацыі электрычнага поля малекул. Прапанаваў метад вызначэння структурных параметраў малекул у вадкім стане і растворы. Сінтэзаваў семікаардынаваныя злучэнні крэмнію, што эксперыментальна пацвердзілі існаванне новага тыпу вадароднай сувязі. Распрацаваў неінсектыцыдны метад абароны бабовых ад каларадскага жука, экалагічную сістэму ачысткі бытавых сцёкавых водаў. Аўтар больш за 40 патэнтаў і шматлікіх публікацый.

Назву роднай вёскі Гошчава беларускі патрыёт Мікола Ярчак увекавечыў у сваіх адкрыццях у навуцы ў галіне крэмнійарганічнай хіміі. Новыя хімічныя злучэнні атрымалі назву "гошчава-сіланаты". Копіі патэнтаў на гэтыя хімічныя злучэнні ўрачыста перададзены на захоўванне ў Гошчаўскую сярэднюю школу ў дзень яе 150-годдзя (2011). Пасля выхаду на пенсію спадар Мікола працягнуў актыўную дзейнасць ў Латвійскім таварыстве беларускай культуры "Сьвітанак" у 2023 годзе.

Мікола Ярчак з жонкай Ліліяй выхавалі двух беларускамоўных сыноў Юрыя і Паўла.

Пахаваны ў Рызе на Балдэрайскіх могілках побач з жонкай.

svitanak.eu

# ПАМЁР ЛЯВОН ЦІМОХІН

12 студзеня 2024 года памёр маладзечанскі настаўнік і паэт, вялікі руплівец беларушчыны Лявон Цімохін. Ён толькі месяц і два дні не дажыў да свайго 80-гадовага юбілею.

Лявон Аляксандравіч Цімохін нарадзіўся 14 лютага 1944 года пад Маладзечнам.

Скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працаваў настаўнікам гісторыі ў сярэдняй школе № 5 горада Маладзечна, усё жыццё прышчапляў вучням любоў да беларускай мовы, культуры і гісторыі.

Таксама ён вядомы сваёй актыўнай грамадскай дзейнасцю, быў адным з пачынальнікаў грамадскага руху ў Маладзечне ў часы гарбачоўскай перабудовы, таксама яго імя сярод ініцыятараў дэкамунізацыі горада, якая часткова была праведзена ў першай палове 1990-х гадоў, калі мэрам горада быў Генадзь Карпенка. Акрамя выкладчыцкай і грамадскай дзейнасці, Лявон Цімохін таксама пісаў вершы. Яны прасякнутыя любоўю да Радзімы, яе краявідаў і прыроды.

Апошнія гады жыцця Лявон Цімохін цяжка хварэў, у 2019 годзе ў яго было дыягнаставана анкалагічнае захворванне.

nashaniva.com






# У РОЎНА НАЗВАЛІ ВУЛІЦУ Ў ГОНАР МІРАСЛАВА ЛАЗОЎСКАГА

24 студзеня ў Роўна адбылося пасяджэнне камісіі па пытаннях наймення гарадскіх аб'ектаў тапанімікі, устанаўлення памятных знакаў, мемарыяльных і анатацыйных дошак.

Было прынята рашэнне назваць праектную вуліцу 5 у гонар Міраслава Лазоўскага, заснавальніка "Белага Легіёна" і культурнага дзеяча, які загінуў пад Бахмутам на расійска-ўкраінскай вайне 16 траўня 2023 года.

Паводле ogo.ua

## Беларускі каляндар памятных дат на сакавік 2024 года

**3 сакавіка**
- 80 гадоў таму, у 1944-м, забіты Францішак Аляхновіч, драматург.

**4 сакавіка**
- 20 гадоў таму, у 2004-м, памёр Міхась Наўмовіч, мастак, дзеяч эміграцыі ў Францыі.

**6 сакавіка**
- 25 гадоў таму, у 1999-м, памёр Міхаіл Петрыкевіч, краязнавец, музеязнавец.

**8 сакавіка**
- 35 гадоў таму, у 1989-м, памёр Мікола Ягаўдзік, дзеяч эміграцыі ў Бельгіі і ЗША.

**10 сакавіка**
- 135 гадоў таму, у 1889-м, нарадзіўся Уладзімір Пігулеўскі, пісьменнік. Памёр у 1958-м.

**12 сакавіка**
- 110 гадоў таму, у 1914-м, нарадзіўся Уладзімір Клішэвіч, паэт, дзеяч эміграцыі ў ЗША. Памёр у 1978-м.

**13 сакавіка**
- 35 гадоў таму, у 1989-м, памёр Іван Касяк, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**15 сакавіка**
- 30 гадоў таму, у 1994-м, прынята Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь.

**18 сакавіка**
- 130 гадоў таму, у 1894-м, нарадзіўся Альбін Стаповіч, кампазітар. Памёр у 1934-м.

**20 сакавіка**
- 25 гадоў таму, у 1999-м, памёр Мікола Трухан, тэатральны рэжысёр.

**22 сакавіка**
- 160 гадоў таму, у 1864-м, павешаны Кастусь Каліноўскі, кіраўнік нацыянальна-вызваленчага паўстання.

**24 сакавіка**
- 230 гадоў таму, у 1794-м, пачалося вызваленчае паўстанне на чале з Тадэвушам Касцюшкам.

**25 сакавіка**
- Дзень Волі
- 20 гадоў таму, у 2004-м, памерла Валянціна Пашкевіч, дзяячка эміграцыі ў Канадзе.

**26 сакавіка**
- 20 гадоў таму, у 2004-м, памёр Янка Баран, дзеяч эміграцыі ў Канадзе.

**27 сакавіка**
- 125 гадоў таму, у 1899-м, нарадзіўся Аляксей Васіленя, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі. Памёр у 1979-м.
- 115 гадоў таму, у 1909-м, нарадзіўся Валерый Маракоў, паэт. Расстраляны ў 1937-м.
- 45 гадоў таму, у 1979-м, памёр Рыгор Крушына (Казак), пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**31 сакавіка**
- 55 гадоў таму, у 1969-м, памёр Мікола Шчаглоў (на эміграцыі Куліковіч), кампазітар, музычны і тэатральны дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**Беларусы ў свеце**
№ 2 (261), люты 2024
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская,
А. Макоўская

Наклад 250 асобнікаў

zbsb.info e-mail: zbsb.minsk@gmail.com